# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 6 (206)

7 ЛЮТЫ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Cena 60 gr.



STO LAT

**УЛАДЗІСЛАЎ ГАМУЛКА**
**(У 55-ую гадавіну з дня нараджэння)**

Уладзіслаў Гамулка нарадзіўся 6 лютага 1905 г. у Кросне ў рабочай сям'я. 14-гадовым хлопцам пачынае працаваць у слесарнай майстэрні. Два гады пазней з'яўляецца арганізатарам Таварыства рабочай моладзі «Сіла», а затым сакратаром прафесіянальнага саюза нафтавікоў ў Драгобычы.

У 1932 г. Гамулка прымае актыўны ўдзел у барацьбе лодзінскіх рабочых, у якой быў цяжка паранены паліцыяй. Пасля выздараўлення, суд прыгаварыў яго на 4 гады турэмнага зняволення. Па прычыне дрэннага здароўя выходзіць з турмы раней тэрміну, але ў 1936 г. ён зноў трапляе ў турму, прысуджаны цяпер ужо на 7 гадоў зняволення.

У першыя дні вайны Гамулка выходзіць на волю. У хуткім часе ўдзельнічае ўжо ў першых баях груп ППР на родным Падкарпацці. У 1942 г. па загаду ЦК прыязджае ў Варшаву і займае становішча сакратара Варшаўскай арганізацыі ППР. Пасля арышту і смерці тав. Паўла Фіндэра, Цэнтральны камітэт паклікаў Гамулку на становішча Генеральнага сакратара.

У 1944 годзе Гамулка прабраўся ў Люблін, дзе прымаў актыўны ўдзел у фармаванні ўлады. У 1945 годзе быў выбраны намеснікам прэм'ера Часовага ўраду. Пасля ўтварэння Міністэрства звернутых зямель, з'яўляўся яго кіраўніком.

Надыходзіць жнівеньскі пленум ЦК ППР у 1948 г. Улаздіслаў Гамулка быў выключаны з Палітычнага бюро. пасля з ЦК і ўрэшце ў 1951 г. арыштаваны.

Год 1956. VII, а пасля VIII пленум ЦК — гэта гістарычны паварот у жыцці партыі і народа. Усе крыўдныя закіды супраць Гамулкі былі адкінуты. Пленарнае пасяджэнне ЦК паклікала яго на члена Палітбюро і першага сакратара партыі.

ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ

# АСВЕТА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ - ВАЖНАЯ ГАЛІНА КУЛЬТУРНА - АСВЕТНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Старшыня ГП БГКТ, У. Станкевіч, у сваім артыкуле «Насустрач III-му З'езду БГКТ («Ніва» за 17.I.1960 г.) паставіў пад развагу некалькі пытанняў, якія з'яўляюцца сур'ёзнымі праблемамі ў дзейнасці нашага Таварыства. Адной з іх, вельмі сур'ёзнай, трэба лічыць справу асветы для дарослых. Пытанне: «Як ліквідаваць да рэшты беларускую і польскую непісьменнасць — гэтую найвялікшую перашкоду ўсіх пачынанняў культурнай дзейнасці ва ўсіх галінах жыцця беларускай вёскі?» — гэта праблема, якую павінна разважыць уся наша інтэлігенцыя, а перадусім увесь наш, шырокі ўжо сёння, беларускі актыў. Гэтая праблема з'яўляецца справай не толькі настаўніцкай, але жывой і балючай справай усіх, каму ляжыць на сэрцы справа існавання і развіцця беларускай культуры. Ці ж можна пагадзіцца з такім фактам, каб у палове дваццатага стагоддзя, побач з вялікімі дасягненнямі ў галіне касманаўтыкі і развіцця атамнай тэхнікі, існавала цемра, забабоны, вера ў надпрыродныя сілы, вера знахарам і рознага роду шарлатанам. А гэтая цемра выплывае перадусім з непісьменнасці даволі яшчэ вялікай колькасці нашага сялянства. І таму нам трэба накіраваць ўсе сілы і намаганні на поўную ліквідацыю непісьменнасці. Але ліквідацыя непісьменнасці гэта толькі пачатак, адна з форм сістэмы асветы для дарослых.

Наша дзяржава не шкадуе сродкаў на асвету для дарослых, а асветныя ўлады ўкладаюць вялікія намаганні ў справу арганізацыі розных форм асветы для дарослых. Але гэтыя намаганні застануцца без вынікаў, калі шырокія культурна - асветныя арганізацыі не дапамогуць у гэтым. Таму Галоўнае праўленне БГКТ павінна ў план працы на 1960 год унесці справу арганізацыі асветы для дарослых, а ў пастановах III-га З'езду БГКТ асвета для дарослых павінна знайсціся на першым месцы. Дапамагаючы асветным уладам у арганізацыі курсаў для дарослых, мы тым самым дапаможам у ліквідацыі цемры і некультурнасці. Будзем пашыраць грунт для лепшага развіцця культурна-асветнай дзейнасці.

Нацыянальныя меншасці ў Польшчы (а асабліва беларускае насельніцтва) адчуваюць патрэбу як найшырэйшай арганізацыі асветы для дарослых. Сярод дарослых бачны тут не толькі сур'ёзны недахоп

(Працяг на стар. 2)

З ЖЫЦЦЯ ВЁСКІ

# У КЛЮКАВІЧАХ ЗІМОЮ

Нялёгка дабрацца зімой да Клюкавіч. Вузкую палявую дарогу занясе гурбамі снегу — не прайсці сюды і не праехаць. Зімовая сцюжа стаецца тут адзіным уладарнікам аколіцы. Клюкавічы — вялікая вёска, у якой налічваецца каля 500 асоб. Непадлёк за вёскай праходзіць дзяржаўная граніца. Да павятовага цэнтра — Сямяціч, адсюль за 30 кіламетраў. Да Чаромхі і Кляшчэляў, куды клюкавіцкія земляробы ездзяць на кірмашы, шмат бліжэй, але калі дарогі занясе снегам, дык і да гэтых мястэчак не дабярэшся. У такі час жыццё сялян замыкаецца ў кругу сваёй вёскі

### І ТУТ АДБЫЛІСЯ ПЕРАМЕНЫ

Здавалася б, у такую глухамань цяжка дайсці новаму.. Цяжка змяніць асвоеныя пакаленнямі спосабы жыцця і пра-...

(Працяг на стар. 4)

КУЛІК



Фота — Б. Вашчэнка

